# Раяшнік.

(Тое-сёе ня новае, а больш усё сэймовае)

А вось паслы нашы, паночкі, залатыя грабушочкі — на апошняю сэсію ўжо вось зьбіраюцца, дый навакола азіраюцца...

Ой гэтая сэсія?!

Прападзе ўжо канцэсія на мандаты сэймовыя, на праезды дармовыя, на пасольскія шчэ і дыэты і на іншыя там „этыкеты"—гэтак сэрцу прыемныя і з мандатам пасла не ад'емныя...

Ой вы паслы — паслы галубочкі!

Прайшлі залатыя дзянёчкі...

Сэймовыя?! —

У жыцьці вашым мядовыя — для народу-ж цярністыя і зусім бескарысныя...

Хутчэй-жа, паночкі, ужо раз'езджайцеся, і з Сэймам на векі жагнайцеся...

Бо што-ж вы дагэтуль зрабілі?!...

Што школы свае зачынілі?!..

Што падаткаў на ўсіх „налажылі"...

Што асаднікаў навакола насадзілі?!...

А мо нас зямлёй надзялілі? ...

Ці на адбудову лясоў нам здабылі?!...

Ой вы-ж, паночкі, мае вы цацанкі!

Куды-ж пахавалі свае абецанкі?!...

Ну і годзе?! Няхай-жа у народзе ўспаміны аб вас ужо спынуцца і лепшыя мо людзі знайдуцца — да працы рэальнай — жыцьцю нашаму блізкай і Народу карыснай...

---

А нашая прэса, дык апошнія ўсе нумары — вось тутка, як хош, разьбяры — нешта маўчаць і не лаюцца, пэўне усім падабаюцца..

Вось быў-бы для іншых „афронт", каб раптам адзіны ды фронт — нацыянальны— стварыўся...

На гэтым і я вось ... спыніўся ...

*Шэйнэ-Катарынка.*

## ПЭПЭЭСАУСКІЯ ГАСТРАЛЕРЫ НА НАШЫХ ТЭРЭНАХ.

Цікавую характэрыстыку некалькіх з гэткіх гастралёраў P. P. S., блутаючыхся па беларускім вёскам і шукаючых нейкага „пралетарыяту", — падае карэспандэнт „Słowa" (№ 237) з Нясьвіжу. „Вось гісторыя Корфа — пішa кар., — кіраўніка касы хворых у апошні час прадстаўляецца ў гэткім відзе: перш—па—перш, як старшыня камітэту P.P.S. атрымаў на Клецкім рынку чырвоны партыйны сьцяг з рук іншага дзялача P.P.S. Валеўскага, кіраўніка касы хворых у Нясьвіжу (цяпер аддадзены пад суд за злачынства і выдалены за службы). З гэтай прычыны Корф выгласіў бальшавіцкую прамову.

Праз колькі дзён сабраў другі мітынг у Сіняўцы, дзе трымаў сябе, як запраўдны бальшавіцкі агітатар. За гэтую антыдзяржаўную прамову пацягнуты да судавай адказнасьці.

Але гэтага мала яшчэ. Улады касы хворых выкрылі, што ён замешаны ў цэлым шэрагу злачынстваў, фальшаваньню квітоў, папрасту зладзействе. Звольнены са службы, а акты перададзены пракурору. У дадатак нядаўна быў асуджаны на некалькі месяцаў турмы, як рэдактар бальшавіцкай часопісі ў Лунінцу „Красное Знамя" (часопісь гэта выдавалась пэпээсамі на расейскай мове. Рэд.)

Але усяго гэтага яшчэ мала. Нядаўна тав. Корф зьнюхаўся з Копэлем Мінковічам, жыхаром Клецка, які за некалькі месяцаў перад гэтым быў выпушчаны з турмы дзе адсядзеў 4 гады за шпіянаж. Мінковіч быў сэкрэтаром аддзелу P. P. S., аб якім старшыня Корф выразіўся гэтак: „Мінковіч дзеля таго уступіў у нашу партыю, што ёсьць камуністам і знаходзіцца пад надзорам. Уступленьне да P.P.S. будзе для яго плашчом".

Калі добра зьнюхаліся Корф з Мінковічам дык апошні абяцаў перавязьці Корфа праз граніцу да Саўдэпіі. Разам для кумпаніі прыхапілі з сабою і скарбніка P. P. S. Курпенюка.

Былі пэўныя труднасьці ў выбары мейсца пераходу граніцы, але нарэшце былі пераможаны і паны Корф і Курпенюк пайшлі з палачкамі і клупачкамі ў кірунку пагранічнай вёскі Еджыц. Ім было весяла, бо як пазьней апавядаў Курпенюк, „охвотна йшоў да Расеі, ведаючы, што Корф мае вялікае значэньне ў бальшавікоў, як сам прызнаваўся". А у дадатак Корф атрымаў даляры з Саўдэпіі. Гэткім чынам усе йшло, як па маслу...

Але чорт падаслаў жаўнераў з К. О. Р. І фінал вядомы. Таварышы Корф і Курпенюк памаршыравалі да стражніцы, а затым да турмы. Цяпер сядзяць у турме разам з шпіенам Мінковічам. Могуць спакойна гутарыць аб партыйных справах, бо складаюць поўны кворум ураду P. P. S. у Клецку: старшыня, сэкрэтар і скарбнік. Вядзецца сьледства, якое павінна паказаць, колькі праўды у першым паказаньн Корфа, што разам з Мінковічам займаўся шпіянажам на карысьць бальшавікоў"...

Вось якіх гастралёраў высылае P. P. S. на крэсы для баламучэньня нашых сялян. І наагул якія „асобы" працуюць „пад плашчыкам" P. P. S., як прызнаў сам таварыш Корф.

# Аналёгія.

Прабудзіўся да волі, да сьвету
Я прачхнуўся ад доўгага сну...
Час тамлівае цумкі прапеты, —
Ў сваім сэрцы пачуў я вясну.

Прападаў я ўсяго тры гадочкі,
У бядзе і нядолі цяжкой.
Цадупалі зусім мае шчочкі,
Падупаў,—а змагаўся з бядой.

Быццам згінулі здольнасьці, тыя
Хоць жывы, — а „нябошчыкам" стаў
І цягнуў дні бяздольна-благія
Адчуваў пустату і чакаў...

Але во я аджыў! досіць мукі!
Я пачуў, што даволі нудзець!
Сваю долю бяру ў свае рукі...
Сілу чую, ўжо годзі цярпець!

---

Павер-жа браток, што з Айчынай
Гэтак сама нядобра цяпер,
Але з часам знойдуцца сілы —
Будзе жыці, браток, о, павер!

Дык надзеі ня кінь, Беларусе,
У адраджэньне зямелькі Бацькоў,
Ты адважна змагайся у прымусе
І ня бойся бяздольных гадоў.

О, Айчына! Будзіся-ж да сьвету
О, прачхніся ад доўгага сну,
Час тамлівы „нябошчыцкі" гэты,
Замяніці пара на вясну.

*А. В-кі.*

22/VIII—27.

---

...дляра. Не атрымаў ня толькі вышэйшай, але нават і сярэдняй адукацыі. Да рэвалюцыі ён служыў там-жа, ў Бел. Царкве прыкажчыкам дробнага мяснога склада. У пачатку бальшавізму Даўгалеўскі паступіў на службу ў чрэзвычайку і прыйм ў удзел у карацельных экспэдыцыях па збору „лішкаў" ад сялян За тым. як чэкіст, Даўгалеўскі доўга „працаваў" па ўсьмірэньню сялянскіх паўстаньняў. Гэтыя заслугі і забясьпечылі Даўгалеўскаму бліскучую дыплёматычную кар'еру. Перад гэтым назначэньнем Даўгалеўскі займаў пасаду полпрэда ў Токіё. Як дыплёмата Даўгалеўскі адразу-ж адзначыўся... малаграматнасьцю. Калі ў пачатку гэтага году ён выступіў на акце Расейска-Японскага Інстытуту ў Токіё з прамоваю, дык дальне-Усходнія газэты зьмясьцілі гэткі адклік аб выступленьні савецкага пасла: „нават японцы зразумелі, што полпрэд дрэна гаворыць па расейскі". „Калі новы пасол — паведамляў аб гэтай прамове харбінскі журнал „Эканаміст", — быў раней прыкажчыкам, дык мы можам запэўніць, што прыкажчыкі пекных магазынаў гаварылі па расейскі значна лягчэй".

## ЗАМАРДАВАНЬНЕ АЛБАНСКАГА ПАСЛАННІКА Ў ПРАЗЕ.

Нядаўна прыбыўшы да Прагі чэскай албанскі пасланнік Тсэнабэг паў ахвярою рэвальвэровага замаху нейкай маладой асобы, назваўшай сябе на дапросе студэнтам Агівіад Бэдзі. Замах быў учынены быццам дзеля таго, што Тсэнабэг здрадзіў Албаніі на карысьць Юга Славіі. Забойца заявіў, што прыбыў да Прагі з спэцыяльнаю мэтаю замардаваньня Тсэнабэга, лічачы яго сьмярцельным ворагам албанскага народу.

## ВЯЛІКАЯ ШПІЕНСКАЯ АФЭРА Ў ЛАТВІІ.

11 кастрычніка пры пераходзе латвійскай граніцы быў схоплены латвійскімі уладамі адзін з пагранічных агентаў Г.П.У. Пры дапросе ён выдаў дакумэнт аб дзейнасьці агентаў Г.П.У. у Латвіі і сьпісак 23 латвійскіх грамадзян, знаходзячыхся на службе Г. П. У. Усе яны арыштаваны. Большасьць з іх служыла у латвійскай пагранічнай стражы і на жалезных дарогах. Некаторыя з іх ужо прызналіся, што перадавалі праз радавых агентаў Г. П. У. весткі аб стане латвійскай арміі і арганізацыі ўнутранай абароны Латвіі.

## МАНГОЛЬСКАЯ АРМІЯ ПАД РАДАВЫМ КАМАНДАВАНЬНЕМ.

Радавая Расея падпісала з Манголіяй новы дагавор, паводле якога мангольская армія аканчальна падпарадкуецца радаваму галоўнаму камандаваньню.

# У ЧЫРВОНЫМ ПЕКЛЕ.

## Грызуцца...

З Рыгі паведамляюць, што ў Кіяве зьліквідавана арганізацыя Троцкістаў, якая мела мэтаю барацьбу з прыхільнікамі Сталіна. У гэтай барацьбе сябры арганізацыі карысталіся тэрорам. Усяго арыштавана 23 асобы і перададзены Г. П. У.

„Праўда" піша што прэзыдыум цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі ухваліў выключыць з партыі Уніёвіча, які, як найбліжэйшы памоцнік Троцкага, стаяў на чале апазыцыі. Яму загадана у 3-х дзённы тэрмін выехаць „у ссылку да" Варонежа. Уніёвіч аднак адмовіўся, заявіўшы, што яго прысутнасьць вельмі патрэбна ў Маскве.

### ЛЕНІН і ЯГО НАСЬЛЕДАВАНЬНІКІ.

„Камісіяй па захаваньню памяткі Леніна ўхвалена памятная дошка з надпісамі: „Ленін з намі". (З газэтаў).




— Ленін з намі!
— Шкода, што вы ня з ім!

## Барацьба з апазыцыяй.

З Масквы паведамляюць, што рэв. ваенная рада С. С. Р. Р. прыняла пастанову выключыць з каманднага складу чырвонай арміі, флёта і авіацыі усіх прыхільнікаў апазыцыі.

## СТАЛІН ХАЦЕЎ АРЫШТАВАЦЬ ТРОЦКАГА.

Парыскія газэты паведамляюць, што Сталін пасьля выключэньня Троцкага з выканаўчага камітэту III інтэрнацыяналу ужо даў загад аб арышце яго, аднак проці гэтага выступілі Чычэрын і Рыкаў, якія баяліся выбуху унутранай грамадзянскай вайны, тым балей, што прыхільнікі Троцкага добра узброяны.

## ДАЛЕЙШЫЯ ВЫКЛЮЧЭНЬНІ З ПАРТЫІ.

З камуністычнай партыі выключаны Міх. Фішараў, займаўшы пасаду кіраўніка дзяржаўнай друкарні ў Маскве, у якой друкаваліся апазыцыйныя дакумэнты. Выключэньне з партыі Прэабражэнскага лічыцца унутры партыйнай падзеяй. Прэабражэнскі быў ня толькі старым бальшавіком, але і адным з буйнейшых дзеячоў партыі, займаўшым самыя адпаведныя пасады. Яму даручаліся самыя паважныя заданьні. Ён карыстаўся уплывам на Леніна. Даволі адцяніць, што ў часе гэнуэскай канфэрэнцыі Прэабражэнскі быў спэцыяльна дэлегаваны для нагляду за радавымі дыплёматамі.

## МЕНСКІ УНІВЭРСЫТЭТ.

15 і 16 кастрычніка адбыліся ў Менску выбары новага ураду унівэрсытэту, у склад якога ізноў вайшлі выбраны на рэктара праф. Пічэта, віцэ-рэктар — праф. Слонін, дэканы усіх факультэтаў і прадстаўнік ад студэнтаў — Хлыст. Менскі унівэрсытэт у бягучым годзе значна „спралетарызаваны" і меў 32% сялян, 19% работнікаў, 42% беларусаў і 7% іншых. Усяго ў унівэрсытэце запісана 3,078 студэнтаў, у тым ліку 1913 студэнтаў і 1065 студэнтак. Матэр'яльна забясьпечаных 500 асобаў.

**Беларусы! Ці выпаўнілі Вы свой грамадзянскі абавязак?— Ці зложылі дэкларацыі свайму школьнаму інспэктару?**

---

Села ціханька ў кутку. Дрыжыка працяла..

— Sąd idziel proszę wstać! абвесьціў пан з гузікамі.

Заля ўздрыганула, ўстала як адзін чалавек.

Пачаўся разбор справаў.

У той самы дзень Суд, паміж іншымі справамі, меў справу нейкага Мордуха Перніка таксама з Мар'ей Балаш. Але ня нашай, другой нейкай. Справа йшла аб эксмісіі (высяленьні з кватэры). Гэтая справа пайшла аднэй з першых. Але Пернік з сваёй Мар'ей памірыліся да Суду. І, па нарадзе адваката — рашылі не зьяўляцца на Суд:

— Хай справу спыняюць! дагаварыліся яны.

— Sprawa z powództwa Piernika przeciwko Marji Bałasz o eksmisję аб'яўляе Судзьдзя. Morduch Piernik i Marja Bałasz! вызывае Судзьдзя.

— Мар'я Балаш... гэта я... ўздрыганула нашая кабеціна.

— Piernik! Bałasz! паўтарыў вызаў пан з гузікамі.

— Я!.. адазвалася Мар'я.

— Proszę tutaj... заве Судзьдзя. Выйшла Уся дрыжыць. Твар зьбялеў.. Першы раз і — за што?..

— Piernik się nie stawił — дакладвае Судзьдзе падыйшоўшы да столу пан з гузікамі.

— Wy Marja Bałasz? пытаецца Судзьдзя.

— Але, паночку... я.. сьлязьліва мармоча спалоханая ў канец Мар'я

— Powód się nie stawił. W podaniu nie prosi o rozpoznanie sprawy podczas jego nieobecności. Przysługuje Wam prawo prosić o umorzenie sprawy. Co powiecie.?

— Дык я-ж пане Судзьдзя... Я ня ведаю... Пернік.. Дадушы ня ведаю нічога... За што ён мяне... Умарыць.. Пернік... Скажэце калі ласка...

— Sprawę znacie: Piernik prosi o eksmisję Was. Czy chcecie by sprawę umorzono?

— Ой, пане Судзьдзя! якая Экс.. Эксія.. а Божанька мілы... За што яе марыць? Не разумею нічога.. будзьце ласкавы разтлумачце... па людзкі..

— No, no! niema czego robić komedji. Rozumiecie aż nadto dobrze!

— Дальбог, пан судзьдзя! не разумею!... эксія.. умарыць... Пернік.. ужо саўсім з плачам енча кабета.

— Mówię językiem, który muszą wiedzieć wszyscy obywatelowie. A więc prosicie umorzyć?

— Пан Судзьдзя.. нікога я ня хочу ўмарыць... далібог-жа..

— Pytam, czy prosicie o umorzenie sprawy czy nie? нахмурыў брыві Судзьдзя.

— Але-ж паночку.., енчыць баба і тужліва кідае вокам на вокал, на публіку па салі.

— Прасі! прасі! падсказвае нехта з публікі.

— Але, але! прашу, прашу пане Судзьдзя... сьпешна замарматала Мар'я. Хай ўжо!... будзем марыць!...

— Dobrze. Sprawa będzie umorzona. Możecie iść!

— Дзякуй, панок! Алеі зрабіце ласку: скажэце, што за эксія, за што марыць яе ці Перніка?..

— Proszę nie przeszkadzać! узвысіў ўжо голас Судзьдзя.

— Але-ж паночку...

— Chcecie bym grzwną Was ukarał? Woźny! wyprowadzić z sali tą kobietę i powiedzieć by szła sobie do domu! выдае загад Судзьдзя.

— Што за Пернік? якая-такая эксія? За што і каго марыць? І накрычэў.. грозіць.. урчыць Мар'я апынушыся на вуліцы.

А праз пару гадзін вызываюць Мар'ю ўжо па яе справе, як сьведку.

— Marja Bałasz nie stawila się! дакладвае возьны.

— Nie stawiła się? Wobec niestawienictwa świadka bez usprawiedliwionych powodów — ukarać Marję Bałasz grzywną w kwocie 10 złotych — аб'яўляе Судзьдзя.

---

— А, Матанькі вы мае! — разказвае суседкам Мар'я — і не даведалася я за што і як? Сьпярша гэта Судзьдзя нешта нагаварываў мяне: прасі кажа ўмарыць! Я — не разумею. Які Пернік? Каго ўмарыць? І што за эксія нейкая... Ня ведаю такіх я! А пасьля крычэць пачаў. Ну, думаю прапала мая галованька! Перажагналася ў душы: воля Божая! А тут нехта падсказвае з публікі: — прасі, прасі! — кажа. Ну я і кажу: Але, пан Судзьдзя! прашу вашае ласкі!.. А ён кажа:

— Справа кончана! ідзі да хаты!

Спрабавала я яшчэ папытаць, вывялі мяне... І што і як — зусім ня ведаю...

— Цётка, а цётка? Як-жа там у цябе з Пернікам? Умарыла яго ці сваю нейкую Эксію? А мо' Пернік у нагароду табя прызначаны быў? сьмяяліся з Мар'і вясковыя жартаўнікі.

---

Праз некалькі тыдняў да Мар'і завітаў ізноў солтыс:

— Плаці цётка 10 зл.

— Як? за што? чаму? спалохалася Мар'я.

— Ды вось Судзьдзя аштрафаваў цябе... за няяўку.

— Як-жа-ж так? Я-ж была там.. Ён сам падгаварваў умарыць нейкую Эксію... Ізноў з Пернікам...

— Нічога ня ведаю! — Плаці а то апісваць рэчы прыдзецца.

— Ды як-жа так? Ды што-ж гэта, гарачка мае!!

— Я нічога ня ведаю, а плаціць трэба, кажа солтыс.

Сунулася ізноў па суседзям:

— Плаці, кажуць, нічога ня зробіш..

Хоцькі-ня хоцькі — прыйшлося заплаціць...

— А Божачка мой Божачка! А што-ж гэта такое? А які-ж гэта Пернік і за што ён здзекваецца нада мной?.. галасіла баба, плоцячы грошы

І толькі многа пазьней даведалася Мар'я, які быў гэты ейны Пернік чаму ёй прыйшлося за яго плаціць...

*Б. Друцкі.*

